# ДЗЕЯЧАС

*літаратурны агляд № 4/2000 (4) Лявона Вашка*

***Цвёрдыя сны камянёў тояць пакрыёмую бездань сусветнае драмы. У халодную глыбіню граніту ціха і наканавана вядуць усіх нас пачуцці, якія раптам ажыўляюць крамянкі сэнс быту і ўвідавочваюць балючую сапраўднасць тайнічага часавання. Тут, у чэраве глыбаў, уся мёртвая ўкаменаванасць дыхае бязмежжам і трагедыяй жыцця. Тут, на ўскраі заімшэлых валуноў, зачынаецца таемства дзеі.***

**Раптам падымаецца запавеса, і неўтаймаваныя пачуцці адкрываюць чуллівы космас камянёў...**



*Ну што, Светаслаў, дап'еш канняк, і разайдзёмся, как у моры караблі?.. Ілі што лі?..*

**Акторскі дуэт**
**Алены Рахмангулавай і Алеся Пашкевіча**
**ў часе спектаклю "Сэкс па перапісцы" выклікае гром смеху.**
**Але ў камедыі жарсці пакрыёма сneліцца трагедыя шчырае душы...**

**КАМЕДЫЯ ЖАРСЦІ І...**

# Музыка жывое філасофіі

***нараджаецца на сцэне МАДТ у часе спектаклю "Сэкс па перапісцы"***



*Кілбаса – адзінае, што трывала аб'ядноўвае гяроў Алены Рахмангулавай і Алеся Пашкевіча. Калі талерка пусцее, гэтае робіцца канчаткова відавочным...*

*Дзяцінства – мінулае ці сучаснасць?.. Перажытае ці жывое?.. Забава дарослых людзей ці прытулак адзінокіх душаў?.. Вобразы сваех гяроў Ірына Камышава і Алесь Пашкевіч напоўнілі чысцінёю, светлым наівам і шчырасцю.*



У свой трэці таатральны сязон маладэчняцкая пастаноўка "Сэксу па перапісцы" ўваходзіць па-ранейшаму як хіт. Спяктакаль змушае гледачоў на шчырае хваляванне. Ён уражвае праўднасцю пачуццяў і выклікае ў гледачоў глыбокае суперажыванне з гяроямі жывое сцэны. Паглядзець "Сэкс па перапісцы" людзі прыходзяць у таатар па некалькі разоў.Звычайны шэры побыт, які акаляе гяроў п'есы, негадана ажывае, і пацешная гісторыя адзінокага няўдаліцы-халасцяка цягам сцэнадзеі трансфармуецца ў шчырую споведзь мудрае чалавечае душы.Бліскуча зграныя ролі акторкамі Ірынай Камышавай, Аміліяй Ларыёнавай і Аленай Рахмангулавай ствараюць тую асноведзь, на якой раскрываецца ўнутраны вобраз цантральнага персанажу – Святаслава Мазаля.

Маладэчняцкі "Сэкс па перапісцы" – гэта глабальная трансфармацыя жывых мастацкіх вобразаў; праз усей спяктакаль адбываецца імклівы рух кампазіцыйных формаў, якія якасна пераўтвараюць пачатковую знешнюю прадвызначанасць сюжэту: шэрая занудзелая бытавуха пераваўсабляецца ва ўзнёслую ідэю кахання і любові, нехлямяжасць галоўнага персанажу – у высокую чалавечую годнасць, а смех гледача – у шчырую роспач; цягам усеахопнага вобразапераўвасаблення адбываецца і жанравая трансфармацыя: з гратэскавае камедыі "Сэкс па перапісцы" пераўтвараецца ў шчымлівую меладраму, а з яе – у класічную трагедыю. Гэткая паўсюдная скразная дынаміка жывіць спяктакаль і нараджае ў маладэчняцкай зале хвалёўнае і невыказнае таемства душаў – музыку жывое філасофіі.

**■ У п'есе "Сэкс па перапісцы" Лявон Вашко прынцыпова паставіў задачу псіхічна разняволіць дзею. Псіхічная свабода ўласнае асобы – адзіны прыгон, якому падпарадкаваныя персанажы п'есы.**

**◆ Пачуццёвая самаволя персанажаў паспрыяла адмысловай кампазіцыі твору; "Сэкс па перапісцы" тоіць у сабе непрадказальнае развіццё сюжэту, і гэтае абумоўлівае нечаканую перамену псіхічных рафлексіяў гледача ў фінале п'есы.**

**■ Наўмысны псіхічны ўплыў на суперажывальніка п'есападзсі дазваляе маніпуляваць пачуццямі і праз несудзержны смех абуджаць бязмежную роспач.**

***"...цікава дасягнуць у гэтай п'есе, у канцоўцы найбольшага змяшэння душэўных настрояў суперажывальніка, "згатаваць" пэўны "кактэйль" пачуццяў, "смехаплач-плачасмех", дасягнуць таго, каб псіхічная прырода саўдзельніка п'есападзеі цалкам, выяўна, супрацьрозумна заўладарыла над свядомасцю, каб ён смяяўся і плакаў адначасова..."***

## ТРАГЕДЫЯ СМЕХУ

Ідэя паставіць "Сэкс па перапісцы" на маладэчняцкай сцэне захапіла мастацкага кіраўніка таатру, заслужанага дзеяча культуры Распублікі Беларусь Мікалая Мацкевіча адразу ж пасля першага знаёмства з тэкстам. У ражасуры Мікалаю Мацкевічу ўдалося здзейсніць галоўную задуму драматурга: разняволіць душу гледача, абудзіць у ім неўтаймоўны псіхізм, прымусіць перажываць бязрозумна, насуперак свядомасным памкненням. Гэткая задума вымагала аксперыменту: трэба было наўмысна парушыць межы асобнага жанру і паяднаць у адным розныя сутнаснапроцілеглыя жанравыя асновы. Камедыя, такім чынам, зрабілася псіхічнай умоваю трагедыі: моцны смех у часе першае дзеі пры канцы спяктаклю паўстаў як падстава адваротнага – скрухі. У пастаноўцы дзейнічае прынцыпківача, калі той, гайдануўшыся, мусіць паўтарыць амплітуду ў процілеглым накірунку; спрацоўвае пэўная псіхалагічная "пастка", якая з кожным выбухам смеху набліжае суперажывальніка да немінучага глыбокага вычування роспачы, і – урэшце тое, што яшчэ хвіліну таму назад было смешным, уражвае сваймі жальбою і безвыходнасцю. Раптоўнае адчуванне двух процілеглых псіхічных акраяў душы, спасабляе гледачоў на ўведанне свае собскае душэўнае глыбіні, на раскрыццё пакрыёмых абсягаў, якія схаваныя па-за абыклымі на першы погляд прадметамі і зьявамі.

## ЧУЛЛІВЫЯ АПРАТКІ

Касцюмы, зробленыя мастачкаю Таццянай Дзямідавай знарок для спяктаклю "Сэкс па перапісцы", – жывыя вобразы, якія разам з іншымі выяўленчымі сродкамі ствараюць пачуццёвую асноведзь спяктаклю: рысы характараў і чалавечыя лёсы, зямное і ўзвышанае, камічнае і трагічнае чулліва знітаваліся ў строях персанажаў.

## ВЫМОЎНЫЯ РУХІ

Жорсткае танго, цнатлівы дзявочы канкан, імклівы кардыбалет старой бабулькі, разьюшаны мужчынскі гапак і проста звычайныя казліныя скокі – жывамоўная харыяграфія "Сэксу па перапісцы". Там, дзе скончаюццазамаўкаюць галасы гяроў, жывая мова працягвае гучаць праз усхваляваныя рухі нямоўкных у свае немаце постацяў, – праца балетмайстра Анатоля Кудраўцава адкрывае хвалёўную філасофію шчырага чалавечага пачуцця.

## ГАЛОЎНУЮ РОЛЮ Ў СПЯКТАКЛІ ВЫКАНАЎ АЛЕСЬ ПАШКЕВІЧ

Алесь Пашкевіч стварыў на сцэне яскравы і ўражлівы вобраз, напоўнены ўнутранай, душэўнай дынамікаю. Ягоная бліскучая гульня – то наўмыснае абвяржэнне першапачатковага старыятыпу; у першай дзеі "Сэксу па перапісцы" гярой Алеся Пашкевіча паўстае цалкам як нехлямяжы, камічны персанаж; аднак гэткі тыпаж далей мэтанакіравана бурыцца, і па-за маскаю няздары і недарэкі нараджаецца драматычны вобраз адухоўленага, чулага чалавека. Праз беспадобныя тыпалагічныя пераўтварэнні гульня Алеся Пашкевіча выяўляе таемную псіхафіласофію: актор, пасееўшы несудзержную весялосць у зале, раптам агаляе маску смеху і раскрывае перад гледачом жудаснае, пачварнае дно камедыі.



*Увадначассі смехам ды скрухаю прасякнутыя і задуменне галоўнага гяроя з нагоды знаёмства праз газетную аб'яву і ягоны гарачысты халасцяцкі танец.*

**ДРАМА ПАЧУЦЦЯ**

## ПРЫСТУПКІ Ў ЖЫВУЮ КАЗКУ КОСМАСУ

Класічная для мыльных вопераў лесвіца нечакана набыла глыбокі змест у спяктаклі "Сэкс па перапісцы". Статычным прыступкам-дакарацыі, на якіх раз-пораз зьяўляюцца персанажы, нададзены ажыўчы сэнс. Цягам спяктаклю адбываецца трансфармацыя сцэнаграфічнага вобразу: з побытава-заземленых сімвалаў – прывалак у краме, пакой у інтарнаце з акцантаваным акном, вакол якога праходзіць значная частка дзеі і ў якое неўзабаве пакутна выпадае галоўны гярой – прыступкі пераўтвараюцца ў лірычна-ўзвышаную сімволіку – менская плошча Якуба Коласа – і ў фінале спяктаклю паўстаюць як уражлівы апакаліпсіс Космасу. Дынаміка сцэнаграфічнага вобразу, створанага Яўгенам Волкавым, з незнарочыстых абыдзённых атаесамленняў прыводзіць гледача да немінучага шчырага перажывання свае душэўнае бездані.

## НЯЎЛОЎНАЯ МУЗЫКА ДУШЫ

Кампазітар Алег Залётнеў праз музыку, напісаную знарок для "Сэксу па перапісцы", перадаў тую мудрую несказанасць, якая жывахвалюецца па-за словамі і падзеямі сцэны. Шчымлівыя пачуцці меладычных гукаў апаноўваюць гледача ад першых хвілінаў спяктаклю і пакідаюць па сабе глыбокае ўражанне. Музычны акцэнт падсвядома напаўняе прадчуваннем трагедыі самыя вясёлыя падзеі і самую камічную мялодыю, а раманс на верш Ірыны Хадарэнкі, які гучыць у фінале спяктаклю, без мяжы выяўляе пачуццёвую філасофію. Невытлумная і магутная магія музыкі, якая гучыць у спяктаклі, выслабаняе душу суперажывальніка з цянётаў свядомасных умоўнасцяў; то музыка, няўлоўная мялодыя якой заварожвае і вечніць душу жывымі адгуччамі.

*жалоба*

## ПАМЁРЛА НІНА ЧАРНЕЙКА

Ніна Чарнейка была чароўным чалавекам. Яна чаравала навакольнікаў спакойнай музыкаю расхваляванага беларускага сэрца і сваім загадкавым хараством. Яна пісала цудоўныя вершы, напоўненыя жыццём і мудрасцю, і самотнай вераю ў шчаслівы лёс. Яна дарыла людзям дабрыню і спагаду, хоць самая больш як хто мела патрэбу ў дабрыні і спагадзе, бо хварэла на жудасную, невылечную хваробу. Ніна памёрла ў трыццацітрохгадовым веку, пакінуўшы па сабе зборнік шчыраўсхваляванае паэзіі "Грамнічная свечка", паатычныя рукапісы і светлую памяць. Ейная заўчасная смерць – несуцішны боль для сваякоў і сяброў. Пахавалі Ніну 28 ліпеня 2000 году ў Жодзіне. Правесці паэтку ў апошні шлях прыехалі Алесь Масарэнка і Лявон Вашко. У часе грамадзянскае паніхіды Алесь Масарэнка выступіў з развітальным словам. У наступным выпуску "Дзеячасу" будзе друкавацца матарыял пра лёс Ніны Чарнейкі.



**У выпуску выкарыстаныя здымкі, якія зрабіў нябожчык Уладзімір Мяжэвіч аб часе маладэчнянскае прам'еры "Сэксу па перапісцы".**


**Савецкая, 138 Масты Беларусь 231600 ☎ (8-01515) 2-23-75**
**e-mail: liavon@yahoo.com http://liavon.virtualave.net**



Літаратурны агляд "Дзеячас" выдадзены ў Мастох. Дабрачынна надрукаваны ў Гародні на абсталяванні грамадскага аб'яднання "Ратуша" пры падтрымцы Фонду "Аллянс Каўнтарпарт", Камісіі па Дамакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і нацыянальнага Фонду на карысць дамакратыі (ЗША). Друкар Ігар Лысееў. Збор 299 асобнікаў. Самавыдавецтва. Распаўсюджваецца бясплатна.